**Педагог-ветэран звярнуўся з адкрытым лістом да прэм'ер-міністра** (чытайце на 2-й стар.)

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

***Якуб КОЛАС***

**№ 52 (4407)**

5 ліпеня 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# Народная Воля

## «В руке – спицы, живот зашили...»

*24-летний минчанин Александр Судникович прооперирован в Больнице скорой помощи.*

После взрыва во время салюта одним из пострадавших стал и Александр. Ночью парня прооперировали, операция длилась около трех с половиной часов.

«*Сейчас в руке у меня спицы, зашили живот*, – рассказал молодой человек tut.by. – *Рука болит, но чувствую себя удовлетворительно*».

НАДЗВЫЧАЙНАЕ ЗДАРЭННЕ

# Крывавы салют

**Здавалася, нішто не азмрочыць святкаванне Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Усе мерапрыемствы адбываліся з захаваннем правілаў перасцярогі, на належным арганізацыйным узроўні.**

**І раптам – такое здарэнне! Падчас салюту, недзе на трэцяй хвіліне, у Мінску ў парку, што ля Камсамольскага возера, прагрымелі два моцныя выбухі, можна сказаць, непасрэдна на зямлі, з грыбавідным дымам. Пасля гэтага залпы ля стэлы сціхлі, хоць у другіх месцах горада салют працягваўся.**

**Здарылася непапраўнае. Аскепак трубкі, з якой вылятае феерверк, трапіў у горла 64-гадовай жанчыне, якая глядзела салют недалёка ад месца знаходжання пускавых установак. Медыкі, якія прыбылі літаральна праз некалькі хвілін, рабілі ўсё, каб выратаваць пацярпелую, але ім гэта не ўдалося, яна менш як праз паўгадзіны памерла.**

**Усяго, паводле слоў міністра аховы здароўя Уладзіміра Караніка, аскепкі ад выбухаў закранулі дзесяць чалавек: адразу на месцы здарэння шасцярым была аказана медыцынская дапамога, а чацвёра самастойна звярнуліся ў прыёмныя пакоі шпіталяў. На ўчарашні дзень у бальніцы засталіся два чалавекі, адзін з раненнем шчакі, а другі – з траўмай пляча.**

**Як сказаў міністр, жанчына, якая памерла, атрымала траўмы, не сумяшчальныя з жыццём. «Нягледзячы на аказаную дапамогу, у тым ліку рэанімацыйнымі брыгадамі, выратаваць яе не ўдалося. На жаль, такая рэдкая неспрыяльная сітуацыя, калі аскепак пашкодзіў сонную артэрыю і іншыя магістральныя сасуды».**

**Рыгор КАЛЕСНІКАЎ.**













## Падрывы адбыліся ў трох з шасці месцаў...

Камісія Міністэрства абароны працягвае службовае расследаванне па факце выбухаў фееверачных вырабаў у Мінску пасля парада 3 ліпеня. Як паведаміла прэс-служба ведамства, падарваліся вырабы аднаго калібру (195 мм) з пяці, што прымяняліся ў ходзе салюту (105 мм, 125 мм, 150 мм, 195 мм, 310 мм).

Выбухі адбыліся ў трох з шасці месцаў, дзе праводзіўся салют. Пасля першых падрываў салют у гэтых месцах быў спынены.

Як мяркуецца, прычынай падрыву былі няякасныя зарады дадзенага калібру (195 мм).

Устаноўлена, што ўсе рэгламентаваныя нарматыўнымі дакументамі меры бяспекі былі выкананы. Вайскоўцы разлікаў салютных установак прайшлі спецыяльную падрыхтоўку і былі дапушчаны да правядзення салюту адпаведнымі загадамі.

Для выключэння «чалавечага фактару» (няправільнай эксплуатацыі ўстановак і вырабаў) вялася відэаздымка працэсу зараджання салютных установак.

КАМЕНТАРЫЙ

Іван НАСКЕВІЧ,
кіраўнік Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь:

## «Асноўная версія – няякасныя феерверкі»

Кіраўнік Следчага камітэта Іван Наскевіч пракаментаваў у эфіры АНТ здарэнне, якое адбылося падчас салюту ў Мінску, у выніку якога загінула 64-гадовая жанчына і 10 чалавек пацярпелі. Ён заўважыў, што ўсе раненні гледачы атрымалі «па-за межамі вызначанага перыметра».

«Выпадак выключны, раней такіх сітуацый не фіксавалася, – адзначыў І.Наскевіч. – У якасці асноўнай разглядаецца версія, што феерверачныя вырабы былі няякаснымі, расійскай вытворчасці. Устаноўлена, што выкарыстоўваліся марціры трох калібраў – 105, 195 і 310 міліметраў. Няштатная сітуацыя ўзнікла з марцірамі калібра 195. Перыметр бяспекі быў вызначаны для штатнай сітуацыі. Тое, што адбылося, выйшла за рамкі такіх сітуацый, усе раненні грамадзянам былі нанесены па-за межамі вызначанага перыметра, пралічыць разлёт у выпадку ўзнікнення няштатнай сітуацыі практычна немагчыма».

ЗВАНОК У СЕРГІЕЎ ПАСАД

## «Прадстаўнікі нашай кампаніі зараз адказваюць у Мінску на пытанні следчых...»

*Карэспандэнт "Народнай Волі" патэлефанаваў у расійскую фірму, якая пастаўляла ў Беларусь феерверкі, што прывялі да трагедыі.*

Міністэрства абароны паведаміла, што салютныя ўстаноўкі і самі феерверачныя вырабы набываліся ў расійскім ТАА "Пиро-Росс" з Сергіева Пасада.

Фірма была заснавана ў 1994 годзе чатырма абароннымі прадпрыемствамі з Расіі: Красназаводскім хімічным заводам, Навукова-даследчым інстытутам прыкладной хіміі з Сергіева Пасада, Чалябінскім прадпрыемствам хіміка-машынабудаўнічага профілю "Сигнал" і галаўным прадпрыемствам абаронна-прамысловага комплексу Расіі – Федэральным цэнтрам двайных тэхналогій "Союз".

На сайце фірмы паведамляецца, што "*сучасныя феерверачныя комплексы, электронныя сістэмы кіравання і моднае жаночае адзенне, якое выраблена ў кампаніі, маюць значны попыт і агульнарасійскае прызнанне*". "*Мы неаднаразова ўзнагароджваліся медалямі і дыпломамі розных Усерасійскіх выстаў, у тым ліку дыпломам "100 лепшых тавараў Расіі*", – з гонарам прэзентуе сябе расійская фірма.

"*Сёння мы працягваем распрацоўку і выраб сістэм кіравання феерверачнымі паказамі з актыўным прымяненнем электронікі,* – дадаюць у кампаніі. – *Пры правядзенні феерверачных паказаў наша кампанія прапануе самыя нізкія цэны на рынку, ствараючы пры гэтым розныя феерверачныя кампазіцыі як за кошт кваліфікаванага падбору феерверачных вырабаў, так і за кошт прымянення арыгінальнага феерверачнага абсталявання*".

Што тычыцца інцыдэнту ў Мінску, то ў расійскай кампаніі з гэтай нагоды робяцца нешматслоўнымі.

"*Пакуль усё самі не высветлім і не разбяромся ў дэталях, няма чаго казаць,* – паведамілі мне ў ТАА "Пиро-Росс». – *Наколькі вядома, будзе створана адмысловая камісія, якая зоймецца разбіральніцтвам. Расследаванне пакажа, што стала прычынаў выбуху...*"

Тым часам Office Life стала вядома, што гэтым разам расійская фірма паставіла ў Мінск феерверкі ўласнай вытворчасці з партыі 2017 года. Пастаўка была на 20 мільёнаў расійскіх рублёў (прыкладна 315 тысяч долараў).

Паводле некаторай інфармацыі, зараз "*прадстаўнікі кампаніі знаходзяцца ў Мінску і адказваюць на пытанні следчых*".

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

### АД РЭДАКЦЫІ

Нельга не звярнуць увагу на такія словы аднаго з прадстаўнікоў расійскага таварыства з абмежаванай адказнасцю «Пиро-Росс»: "Пры правядзенні феерверачных паказаў наша кампанія прапануе самыя нізкія цэны на рынку..." А ці не можа быць такое: якія цэны, такая і якасць прадукцыі? Калі ў Міністэрства абароны не хапала грошай, то які рэзон быў заказваць у расійскіх пастаўшчыкоў феерверачныя вырабы?

Шмат узнікае пытанняў, на якія грамадскасць чакае адказаў.

РАЗБОР ПОЛЕТОВ

## Не нашли что сказать?

*Вчера в Национальном пресс-центре должна была состояться пресс-конференция, тема которой еще неделю назад была заявлена так: «Об обеспечении безопасности во время проведения в Минске и Беларуси крупных спортивно-массовых и праздничных мероприятий: II Европейских игр и Дня Независимости Республики Беларусь». Но ее отменили. Без объяснения причин.*

Среди заявленных спикеров были **Дмитрий Курьян,** *заместитель начальника главного управления охраны правопорядка и профилактики МВД,* **Станислав Соловей,** *официальный представитель управления государственной автомобильной инспекции МВД,* **Сергей Новик,** *начальник управления аварийно-спасательных служб и ликвидации чрезвычайных ситуаций МЧС,* **Олег Панчук,** *начальник отдела организации медицинской защиты при чрезвычайных ситуациях Министерства здравоохранении.*

*Эти люди не знали, что сказать и как объяснить, почему во время салюта погибла женщина? Им с утра не написали готовые ответы на вопросы?*

*А почему тогда к журналистам вместо рядовых спикеров не вышли министр обороны генерал* **Андрей Равков**, *новый министр внутренних дел* **Юрий Караев,** *генеральный прокурор* **Александр Конюк**? *Или эти генералы только красоваться на трибуне рядом с президентом могут? А как объясниться по делу – так язык в одном месте?*

*А может, извиняться за генералов снова будет глава Администрации президента* **Наталья Кочанова**?

*Почему вчера утром министр обороны Равков не взял всю вину за случившееся на себя и не объявил о своей отставке?*

*Некоторые пишут: мол, не генеральское это дело* – проверять качество фейерверков, не он определяет точки, где должны стоять орудия во время салюта. Может, и так. Но министр несет персональную ответственность за все, что происходит в его ведомстве! И *столько косяков со смертельными исходами по линии Министерства обороны, сколько случилось в его бытность, не было ни у одного предыдущего министра...*

*О том, что случилось на параде 3 июля, сегодня говорит вся страна. А чиновники, ответственные за организацию торжеств, ограничились лишь короткими сообщениями пресс-служб.*

**Марина КОКТЫШ.**



**Добра, што падчас ваеннага парада гэтыя сокалы не падвялі...**







НАЦИОНАЛЬНАЯ ПРОБЛЕМА

# Учитель в Беларуси: куда идем?

## Открытое письмо премьер-министру Республики Беларусь С.Н.Румасу

Уважаемый Сергей Николаевич!

Хочу поделиться с Вами некоторыми мыслями о роли и месте, статусе и престиже учителя в современном обществе, о проблемах, которые нужно решать.

### Зарплата «сеятеля разумного…»

За последние годы финансовое положение учителя в нашей стране несколько улучшилось, хотя мы еще далеки до уровня зарплаты коллег во многих странах мира. Судите сами: по данным Белстата, средняя зарплата наших школьных педагогов за 2018 год составила 791,5 рубля. В то время как (по данным Myfin.by) в Польше в декабре 2018 года средний заработок преподавателя-стажера составил 2900,20 злотого (1654 рубля), контрактного учителя – 3219,22 злотого (1836 рубля), назначенного учителя – 4176,30 злотого (2382 рубля), сертифицированного учителя – 5336,40 злотого (1837 рублей). Средняя заработная плата работников сферы образования в Литве в третьем квартале минувшего года составила 808 евро (1968 рублей), в Латвии – 822 евро (2002 рубля), Эстонии – 1132 евро (2757 рублей). Самые высокие зарплаты учителей в месяц в 2018 году, по данным Организации экономического развития и сотрудничества (ОЭРС), в таких странах, как Люксембург – 10.000 евро, Германия – 6000 евро, Канада – 5500 евро, Япония – 5250 евро, Финляндия – 3900 евро, Франция – 2200 евро.

Существующая система оплаты труда педагогических работников в нашей стране архаична, не соответствует духу времени, статусу учителя в обществе и требует корректировки.

### Нагрузки и перегрузки

В последние годы в стране проводились неразумные, непродуманные, даже, на мой взгляд, вредные эксперименты над учителем и его свободным временем: то его отпуск сокращали, то разрывали, то не полностью оплачивали. Забывая о том, что «свободное время учителя – это корень, питающий ветви педагогического творчества» (В.А.Сухомлинский).

И поныне продолжаются спекуляции вокруг недельной нагрузки учителя. Сейчас она доведена до 20 часов в неделю, а в 70–80-е годы прошлого века была всего лишь 16 часов. Советское правительство, зная о том, что педагоги, подобно космонавтам, испытывают в своей работе непосильные перегрузки, рассматривало проект о снижении недельной нагрузки учителя до 12–14 часов.

Современный учитель стал многопрофильным специалистом. Как в народе говорят, он и швец, и жнец, и на дуде игрец. Мне думается, сейчас нам нужно больше думать не о дальнейшей загрузке учителя, а о его разгрузке от всякой писанины, множества отчетов, составления различных планов и проектов, участия во всякого рода заседаниях. Все, что не свойственно функциям учителя, должны исполнять те, кто призван это делать: ЖКХ, профсоюзы, молодежные, спортивные, культурно-просветительские и так далее организации.

По мнению психологов, нелегкий учительский труд относится к напряженным, психически и эмоционально затратным видам деятельности, связанным с большими нервными перегрузками и стрессовыми ситуациями. Учитель испытывает такие же нервные перегрузки и стрессы, что и летчики-испытатели. Отсюда у учителей много хронических заболеваний: сердечно-сосудистые, желудочно-кишечные, диабет, нервное истощение и душевная усталость к 40–50 годам. Учитель уже после 5–6 лет работы в школе нуждается в оздоровлении. Раньше оздоровлением педагогов занимался отраслевой профсоюз. Нынче у него нет таких функций.

### Под дамским крылом

Не может не вызывать тревогу и феминизация учебно-воспитательного процесса в общеобразовательных учреждениях. Дети с самого раннего возраста, с детского сада и до окончания средней школы находятся под опекой в основном преподавателей-женщин.

В школах страны работают 99.883 педагога (включая руководителей), из них только 13,4 процента мужчин. Женщины стали материальной силой системы образования, кроме того, они же заправляют в учреждениях культуры и здравоохранения. Да, наши женщины могут все: и коня на скаку остановить, и в горящую избу войти, и заменить мужчин во многих профессиях. И это, наверное, хорошо, но есть в этом и свои отрицательные стороны.

Женщины теряют свои природные качества и невольно приобретают мужские особенности характера. Из хранительницы домашнего очага они вынуждены стать добытчиками, кормильцами, защитниками своих семей. Не может быть полноценного воспитания, если с рождения до совершеннолетия дети общаются в основном с педагогами-женщинами. Я уж не говорю о количестве неполных и неполноценных семей. И дети многое недополучают, наблюдая только женскую модель поведения.

### Школа ждет мужчин

Не может быть полноценного воспитания, если с самого рождения дети общаются в основном с педагогами-женщинами. Кто будет воспитывать у наших мальчиков такие качества, как мужество, стойкость, твердость духа, гражданская ответственность, любовь к родителям и Родине? Известно, что слово, сказанное учителем-мужчиной, воспринимается иначе, чем слово преподавателя-женщины. Школа остро нуждается в мужчинах, и грустно сознавать, что эту проблему нынешнее правительство обходит стороной.

Феминизацией системы образования озабочены и многие другие страны. Но немало и таких, где эта проблема практически решена. К примеру, в Канаде и Англии мужчин в школах даже чуть больше, чем женщин.

Когда же процент учителей-мужчин в странах Западной Европы упал за пять лет с 54% до 50%, правительства этих стран забили тревогу, разработали национальные программы по привлечению их в школы, подняли заработную плату, выделили специальные пособия, ввели льготы. И нам следует поступить таким же образом. Пусть же у нас эта сфера станет привлекательной для мужчин!

### Почему они уходят?

В последние годы мы наблюдаем большой отток кадров из школ. Учителя бегут из-под светлых сводов, как черт от ладана. Бегут от неустроенности, низкой зарплаты, нравственной опустошенности, неуверенности в своем будущем... Немаловажно и то, что отсутствует достойный их подвижнической деятельности социальный статус, правовая защищенность. Учитель бессилен перед любым чиновником, авторитарным руководителем учреждения образования. Его могут унизить, оскорбить, обидеть нерадивый ученик, скандальный родитель, представитель власти. И никто за это не несет ответственности.

Грустно сознавать, что школу покидают лучшие из лучших, талантливые, неординарные и самобытные педагоги! А воспитать их не так-то просто. Для этого требуются десятилетия. Учителей, которыми может гордиться страна, сейчас в школах единицы. Без поистине талантливых учителей не вырастить талантливых учеников.

### Где новаторы и лидеры?

В школу должны прийти учителя нового типа: подвижники, мастера, профессионалы высокого уровня, компетентные специалисты с широким кругом знаний, новаторы, исследователи, сказочники, волшебники, кудесники творчества.

Где их взять? Их нужно растить, учить, воспитывать и беречь. Для этого можно разработать государственную программу дальнейшего совершенствования профессионального мастерства учителя, его аттестации, используя весь накопленный опыт наших и зарубежных школ. Спланировать так, чтобы каждые 2–3 года учитель продвигался вверх в своем профессиональном мастерстве и квалификации.

В связи с этим следовало бы повысить требования к проведению аттестации учителей. Было бы полезно посылать педагогов в зарубежные учреждения образования. Желательно разработать систему карьерного роста учителя, используя зарубежный опыт. Например, в Сингапуре существует такая система градаций: первая – административная карьера; вторая – карьера «старшего учителя», к которому коллеги в любой момент обращаются за консультацией; третья – карьера «учителя-мастера», чьи уроки будут посещать коллеги из других образовательных учреждений.

Примерно такая градация в школах Англии: учитель, старший учитель, учитель-мастер. Полагаю, что и нам следовало бы ввести три ступени карьерного роста учителя, например учитель-мастер, учитель-новатор, учитель-исследователь, сохранив прежнюю квалификационную градацию.

### Не обходить наградами

Одним из существенных факторов повышения социального статуса любого работника, в том числе и учителя, является моральное стимулирование. К сожалению, система стимулирования педагогического труда в нашей стране, мягко говоря, не соответствует духу времени, сути педагогической деятельности.

В Бресте в сфере образования занято 5257 работников, из них более трех тысяч собственно учителя. И только трое из них носят звание «Заслуженный учитель Республики Беларусь» и 26 награждены знаком «Отличник образования Республики Беларусь». И это несмотря на неоднократные представления лучших педагогов на получение этих званий. Среди брестских учителей бытует саркастическое мнение, что в нашей стране легче получить звание «Герой Республики Беларусь», чем «Заслуженный учитель». Кто же отбирает претендентов для награждения? Ответ ясен: чиновники, люди, достаточно далекие от образования, плохо знающие и представляющие суть педагогической деятельности, поистине каторжного труда учителей.

Как можно судить о том, чего не знаешь, в чем не разбираешься? Такая система порочна и позорна для страны. Она должна быть кардинально изменена!

### Никаких контрактов

Мы до сих пор занимаемся прославлением советской системы образования, суть которой – дать сумму знаний, и чем больше, тем лучше. Действительно, было время, когда она по праву считалась лучшей. Жить без лучших достижений прошлого нельзя, но и жить одним прошлым означает идти назад. Так можно напрочь забыть, что на дворе XXI век.

Академик А.Н.Несмеянов когда-то сказал: «Главное, что должно дать образование, – это не багаж знаний, а умение владеть этим багажом». А для этого нужны инновационные педагогические технологии. Вот этому и должны учитель учить учащихся. Полагаю, что после введения и утверждения нового статуса учителя нам следует отменить контрактную систему найма в области образования. Опыт показывает, что именно она отторгла, оттолкнула, «вымыла», как выразился наш президент, лучших из лучших, талантливых учителей.

Мы доверяем учителю готовить будущее страны, но не доверяем в работе. Заключить контракт с учителем – все равно что простолюдину заключить договор со своим духовником, ученому – с высшим разумом, человеку – со Всевышним.

### Нужны настоящие, а не бутафорские реформы

Английский философ и публицист Эдмунд Бёрк заметил: «Государство, не имеющее средств на то, чтобы реформироваться, не имеет средств и на то, чтобы существовать по-старому». Вспомним Петра Столыпина, Шарля де Голля, Франклина Рузвельта. Все они с разной степенью везения пытались реформировать экономическую и политическую жизнь в своих странах.

Наша страна нуждается в истинной, глубокой, содержательной реформе общеобразовательной школы, а не в бутафорской, которую предлагают разработать чиновники в тиши своих кабинетов. В связи с вышеизложенным прошу Вас, Сергей Николаевич, поручить соответствующим службам разработать:

1.государственную целевую комплексную программу «Одаренные дети и молодежь»;

2.реформу общеобразовательной школы;

3.закон об учителе, включающий в себя положения:

– о повышении статуса учителя общеобразовательной школы;

– о штатно-окладной системе оплаты учителей;

– о системе мер по повышению престижа педагогической профессии;

– о системе мер стимулирования труда педагогических кадров;

– о неприкосновенности личности учителя;

– о системе мер по привлечению мужчин к работе в учреждениях образования.

С уважением –

**Иван ДРИГАЙЛОВСКИЙ,**
**педагог-ветеран, директор школы с 25-летним стажем.**

*Брест.*

КАМПЕТЭНТНА

Сяргей СЦЯПАШКІН:

## «Пускавыя ўстаноўкі ператварыліся ў асколачныя гранаты…»

*Кіраўнік адной з беларускіх кампаній, якая выконвае заказы на салюты і феерверкі, выказаў сваё стаўленне да трагедыі, якая адбылася 3 ліпеня.*

– Стралялі з жалезных марцір, а яны больш траўманебяспечныя, – кажа суразмоўца. – Але, наколькі мне вядома, згодна з беларускім заканадаўствам, зарады такога калібру, якія былі падчас салюту, можна выпускаць толькі з жалезных марцір.

У выніку людзі пацярпелі не ад самых зарадаў, а ад жалезных аскепкаў, якія ляцелі 500–600 метраў. Пластыкавыя пралецелі б максімум 10 метраў, і ніхто асабліва не пацярпеў бы. Адным словам, пускавыя ўстаноўкі ператварыліся ў асколачныя гранаты.

**– Ці можна перад салютам праверыць зарад на якасць?**

– У тым і праблема, што нельга. Гэта ж не прас ці пыласос, рабочы стан якіх лёгка праверыць у любы момант, уключыўшы ў разетку. Якасць зараду можна ацаніць толькі візуальна перад пускам, але ж гэта не тое. У нас таксама здараецца, што ёсць працэнт няякаснага тавару, і ў такім выпадку мы проста вяртаем грошы.

**– Міністэрства абароны паведаміла, што падрывы адбыліся ў трох з шасці месцаў, дзе праводзіўся салют…**

– Гэта дае падставы сцвярджаць, што партыя феерверкаў магла быць бракаванай. Не спрацавалі зарады калібру 195 міліметраў. Хутчэй за ўсё, сама ўстаноўка тут ні пры чым. Абсталяванне адказвае за тое, каб усе зарады павыляталі. А вось чаму яны разрываліся несвоечасова – гэта ўжо, відаць, пытанне якасці зарадаў. Хаця не выключана, што і дождж мог паўплываць на сітуацыю, калі ён ішоў у той час.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

МЕРКАВАННЕ



Мечыслаў ГРЫБ, генерал міліцыі:

## «Калі б канцэрт спынілі, магло быць яшчэ больш ахвяр»

Ці правільна зрабілі арганізатары Дня Незалежнасці, што пасля інцыдэнту падчас салюту, калі траўмы атрымалі многія людзі, не спынілі правядзенне канцэрта? З гэтым пытаннем «Наша Ніва» звярнулася да генерал-лейтэнанта міліцыі ў адстаўцы Мечыслава Грыба.

«Па-першае, я хацеў бы адзначыць, што пры правядзенні такіх мерапрыемстваў, як салюты, дзе выкарыстоўваюцца выбуховыя рэчывы, трэба вельмі добра арганізаваць бяспеку людзей. І гэта рэальна зрабіць. Салют можна бачыць на вялікай адлегласці, і нельга падпускаць людзей блізка да яго. Патрэбна выключыць усе недарэчнасці і выпадковасці. Усё гэта можна зрабіць, але нехта не зрабіў.

Я прытрымліваюся думкі, што ў гэтым выпадку канцэрт не трэба было спыняць. У адваротным выпадку было б нашмат болей панікі і неразбярыхі. Маглі б быць і іншыя ахвяры. Маглі б быць натоўпы і на аўтобусы, і на метро. У нас гэта было, мы гэта праходзілі. Калі б толькі абвясцілі, што канцэрт спыняецца, то магла б быць вялікая паніка».

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

Александр ФЕДУТА

# Не за то топтали

В речи по случаю Дня Независимости Александр Лукашенко отреагировал на дискуссию, разгоревшуюся в связи с принятием нового закона о призыве на военную службу: *«Развернулась бурная полемика: как будем служить в армии? Читай – а как будем защищать свою землю, свое Отечество, как? Бедный министр обороны Равков: его истоптали уже вдоль и поперек – не то предложил, не то военные внесли на рассмотрение парламента, а те что-то там приняли, а завтра будет катастрофа».*

Хорошо, что глава государства реагирует на общественное мнение – пусть в отрицательной форме, но реагирует. Плохо, что при этом наблюдается элементарная подмена понятий. «Топтали» министра Равкова вовсе не потому, что его оппоненты считают ненужным защищать свое Отечество и – если учесть дальнейшие слова Александра Григорьевича – готовы «слить» суверенитет Беларуси или России, или НАТО. «Топтали» его совершенно по иной причине.

Вопрос ведь не только в том, что именно предложил министр Равков, – отказ от повторной отсрочки тем призывникам, кто по окончании бакалавриата хотел бы продолжить учебу в магистратуре. А в том, какие механизмы генерал предлагает использовать для реализации предложенного законопроекта. Механизм прост: «тащить и не пущать!», как писал классик. Мол, введем запреты – и пойдут они у нас служить как миленькие!

Ну, в это позвольте не поверить. «Косили» от войска хлопцы, как бы мы к этому ни относились, и «косить» будут. На ваши запреты у них и их родителей найдется сто относительно честных способов их обойти. И первый из них – отъезд за границу. Сделать это будет достаточно просто, а уж парню, изначально ориентированному на получение полноценного высшего образования, Андрей Алексеевич Равков выписывает тем самым моральную индульгенцию: вы меня силой хотите в армию запихнуть, так вот я назло вам за границей останусь.

И ведь очень многие останутся. Тем самым лишая родину значительного числа мужчин в репродуктивном возрасте от 18 до 28 лет включительно. И что – вы думаете, что после этого они вернутся в Беларусь, когда опасность столкновения лоб в лоб с ведомством генерал-лейтенанта Равкова минует? Я так не думаю. Скорее всего, не вернутся. Они в этом возрасте там обзаведутся семьей, устроятся – с дипломом европейского образца – на работу, получат вид на жительство, а затем кое-кто и гражданство. Запретительный механизм вытолкнет их из страны, и многие с облегчением этим воспользуются.

Вы считаете это правильным? Я не считаю. Но тогда почему умный человек – каким лично я считаю Андрея Алексеевича – предлагает к принятию законопроект, неизбежно влекущий за собой именно такие последствия? Ведь число «уклонистов» такого рода будет весьма ощутимым в катастрофически стареющей стране.

Да, с этим можно бороться. Можно объяснить испуганным родителям, что армия – уже не та, что дело несчастного Александра Коржича многому научило руководство Министерства обороны; можно продемонстрировать публично, как именно министр и его заместители, командующие частями и видами войск, генералы и офицеры теперь сражаются с дедовщиной. Но это требует диалога с обществом, причем диалога полноценного, а вовсе не памятной имитации, когда группа депутатов прибыла в одну из частей, чтобы отведать солдатской каши. А идеологи и пропагандисты в Министерстве обороны после истории с Коржичем не сменились и по-новому работать не научились.

Можно, конечно, сказать: вы, господа журналисты, просто не обращаете внимания на то, что министерство делает. Но это будет неправдой. Стоит любому министру дать серьезное интервью любому медиа – государственному ли, негосударственному, – реакция на него, в том числе с обширными цитатами из сказанного, немедленно появляется и в интернете, и в печати. Так устроено сегодня медийное пространство. И тот факт, что Андрея Равкова начали «топтать» за две недели до принятия закона, свидетельствует о полном провале информационного обеспечения законопроекта. Полном, Андрей Алексеевич. Вас «топтали» не за то, что Вы предложили, а за то, что не провели хотя бы за полгода до подачи закона нормальную разъяснительную работу и не учли те замечания, которые неизбежно возникли бы в ходе Вашего общения с потенциальными оппонентами. Причем вовсе не обязательно было учитывать все замечания без исключения. Однако высказано было бы, поверьте, и много здравых мыслей.

А так – что гражданскому обществу остается делать? Отряхнуть прах недотоптанного министра со своих ног и двигаться дальше. Но в том, что предложенный вместо нормальной реформы армии законопроект, к тому же провальный на уровне разъяснительной работы, принесет многим из кандидатов в депутаты из числа действующих парламентариев, а в будущем году – и некоторым кандидатам в президенты дополнительные «черные шары», – в этом я уверен.

ПАРТЫЙНАЕ ЖЫЦЦЁ

## На якія ліфты збірае грошы Аб'яднаная грамадзянская партыя?



*Пра гэта «Народнай Волі» распавёў выконваючы абавязкі старшыні АГП* ***Мікалай КАЗЛОЎ.***

– Прынята рашэнне, што ў нашым будынку будуць планава мяняць ліфты, – *гаворыць Казлоў.* – Мой офіс не арандуем, ён знаходзіцца ў нашай уласнасці. Выдаткі падзяліліся на ўсіх уласнікаў і нам выставілі рахунак – 1743,59 беларускага рубля. Ліфты магілёўскія, але каштуюць дорага, як бачым залатыя!

**– Нядаўна паведамлялася, што ў партыі – нуль на рахунку. Вы звярнуліся па дапамогу да сваіх прыхільнікаў. Атрымліваецца, збіраеце не толькі на ліфты?**

– Так, у нас цяпер складаны час. Крызіс ударыў практычна па ўсіх, і наша партыя – не выключэнне. Я сам аддаю 10 працэнтаў свайго прыбытку партыі. І пры гэтым не атрымліваю ў АГП ні капейкі.

**– А як вы ставіцеся да парады наладзіць дакладную сістэму партыйных унёскаў? Ведаю, што гучалі такія прапановы...**

– Мы можам запрасіць тых спецыялістаў і эканамістаў, якія пра гэта кажуць, – хай выбудуюць сістэму, і, калі ўсё атрымаецца, мы яшчэ і заплацім ім зарплату!

У нас сяброўскія складкі не абавязковыя для выплаты. Шмат людзей у цяжкім эканамічным становішчы. Мы рэкамендуем плаціць унёскі, але справа ў тым, што не ўсе могуць гэта рабіць.

Іншае пытанне, што наша дзяржава неяк дзіўна ставіцца да палітычных партый. Замест таго каб зацікаўліваць людзей разам вырашаць грамадска-палітычныя задачы, актыўна ўдзельнічаць у жыцці краіны, у нас душаць любую палітычную ініцыятыву.

У нашай партыі шмат разумных людзей, эканамістаў, але яны не настолькі багатыя, каб утрымліваць партыю. Хоць і дапамагаюць па меры магчымасці.

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

